№73 (1636)
Аўторак, 22 красавіка 2003 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай і рускай мовах
Перыядычнасць — 5 разоў у тыдзень
Кошт свабодны.

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*
Якуб Колас

# Народная Воля

E-mail : nv@promedia.by
http://nv.promedia.by

### *Надвор'е*

У Мінску сёння чакаецца: удзень — +13...+15, без ападкаў, увечары — кароткачасовы дождж, уначы — +4...+6; у Брэсце ўдзень — +10...+12, дождж, уначы — +5...+7, без ападкаў; у Гродне, Віцебску ўдзень — +11...+13, дождж, уначы — +5...+7; у Гомелі ўдзень — +15...+17, уначы — +6...+8; у Магілёве ўдзень — +15...+17, уначы — +3...+5.

*www.meteo.by*



**ПУЛЬС**

## Начальнік Баранавіцкага ГАУС адхілены ад пасады

Ад займанай пасады адхілены начальнік Баранавіцкага гараддзела міліцыі Аляксандр Сухарэвіч. Прычына такога рашэння, як патлумачылі БелаПАН ва УУС Брэсцкага аблвыканкама, у надзвычайным здарэнні з прапажай з дзяжурнай часткі ГАУС табельнай зброі.

Прапажа двух пісталетаў Макарава і стрэльбы ТОЗ-34Р была выяўлена 5 красавіка пры чарговай праверцы табельнай зброі. Амаль праз тыдзень пошукаў сумка з пісталетамі і стрэльбай была падкінута невядомымі да дзвярэй лінейнага аддзела міліцыі на вакзале "Баранавічы-Цэнтральныя". Падазроныя ў выкраданні зброі супрацоўнікі міліцыі затрыманыя, а супрацоўнікі, што дапусцілі нядбайнасць, адхіленыя ад пасад. Умовы захоўвання зброі прыведзены ў адпаведнасць з устаноўленымі правіламі.

Новым начальнікам Баранавіцкага ГАУС прызначаны Вячаслаў Пераход, які раней займаў пасаду начальніка Баранавіцкага РАУС.

**Валянціна КАЗЛОВІЧ.**

## Памяці Уладзіміра Мулявіна

Зацверджаны план мерапрыемстваў па ўвекавечанні памяці народнага артыста СССР Уладзіміра Мулявіна.

Як паведамляе прэс-служба прэзідэнта, "для прапаганды спадчыны ўсенародна любімага артыста, развіцця закладзеных ім творчых традыцый будзе створаны Нацыянальны цэнтр музычнага мастацтва "Песняры" імя Уладзіміра Мулявіна, выпушчаны серыя кампакт-дыскаў і мультымедыйнае выданне яго твораў, створаны відэафільм і кніга аб творчасці гэтага выдатнага музыканта".

Прадугледжваецца таксама ў памяць аб стваральніку легендарнага ансамбля "Песняры" назваць іменем Уладзіміра Мулявіна адну з вуліц у сталіцы Беларусі, устанавіць мемарыяльную дошку на доме ў Мінску, дзе жыў музыкант, і помнік на яго магіле. У Беларускай дзяржаўнай філармоніі будзе створаны музей Уладзіміра Мулявіна. На папулярных музычных фестывалях "Славянскі базар у Віцебску", "Залаты шлягер", Нацыянальным фестывалі беларускай песні і паэзіі плануецца заснаваць спецыяльныя прэміі і прызы імя Уладзіміра Мулявіна. Дасягненні ў вучобе і творчасці маладых эстрадных артыстаў — студэнтаў Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры — будуць адзначаны імяннай стыпендыяй Уладзіміра Мулявіна.

**Юлія ЦЯЛЬЦЕЎСКАЯ.**

## Гараць лясы і тарфянікі

Больш за 270 выпадкаў узгарання сухой травы і кустоўя, 62 пажары ў лясах і 11 пажараў на тарфяніках адбыліся ў Беларусі ў мінулыя выхадныя дні.

Асноўная маса ўзгаранняў травы і кустоўя была зарэгістравана на тэрыторыі Мінскай і Віцебскай абласцей. Тушэнне ачагоў травы на Міншчыне ажыццяўлялася 114 разоў, плошча пажараў склала 85 гектараў, у Віцебскай вобласці — 56 разоў на агульнай плошчы 90 гектараў. Пажарна-ратавальныя падраздзяленні сталічнага гарнізона ліквідавалі 11 узгаранняў травы, а з пачатку года ў Мінску зарэгістраваныя 16 вясновых выжарынаў на плошчы 3,5 гектара.

**Дзмітрый БЕЛЬСКІ.**



*В то время как Москва прощалась с Сергеем Юшенковым, который погиб от рук пока не известного убийцы, в Минске группа неравнодушных людей устроила на Октябрьской площади так называемую цепь памяти.*

**ТОЧКА ЗРЕНИЯ**

# Протест в кабине для голосования

*Об избирательной кампании в местные Советы вроде бы сказано немало. Но в этих словесных отвалах лишь крупинки серьезного анализа. Создается впечатление, что многие аналитики намывали материал для обобщений и умозаключений, не выходя из собственного кабинета. Кухонный анализ, однако, немногим отличается от эмоционального разговора на коммунальной кухне.*

**Анатолий ЛЕБЕДЬКО,**
**председатель Объединенной гражданской партии**



**Главный итог прошедшей избирательной кампании в том, что она зафиксировала серьезный сдвиг, произошедший в массовом сознании людей.** Люди, скованные страхом, парализованные финансово-экономической зависимостью от власти, продемонстрировали готовность к протесту в кабине для голосования.

Для того чтобы это понять, достаточно было пройти с кандидатами в депутаты по общежитиям тракторного и моторного заводов, пообщаться со студентами Академии физвоспитания и БГУ, понаблюдать правовой беспредел на избирательных участках Минска и за пределами столичной кольцевой дороги.

Казалось бы, выборы в местные Советы не несут в себе реальной угрозы режиму. Полномочия и возможности депутатов выделяются своей подчеркнутой скромностью. С другой стороны, даже если бы большинство выдвинутых партиями активистов победили, они не составили бы критической массы в Советах. Зато в условиях, когда колеблющаяся часть Европы выразила готовность частично вывести вопрос прав человека и свободы слова за скобки отношений с официальным Минском, у режима возникала реальная возможность укрепить свои позиции на международной арене. И тем не менее власть, с точки зрения имиджа и перспектив улучшения отношений с цивилизованным сообществом, выбирает худший сценарий. Почему же власть не воспользовалась шансом навести мосты как в самой Беларуси, так и через речку Буг?

За более чем восемь лет правления Лукашенко на вершине склона скопилась огромная снежная лавина недовольства. Несколько внешних толчков могут привести эту массу в движение. Власть всерьез испугалась, что местные выборы станут фактором воздействия на ситуацию и создадут именно такой эффект катящегося с горы снежного кома. Ведь, как свидетельствуют социологические опросы, большинство населения Беларуси уже не поддерживает нынешнюю власть. В то же время это же самое большинство заражено вирусом депрессии и фрустрации. Для того чтобы люди осознавали и зеркально воспринимали происходящее, поверили в себя, в свои силы, нужны позитивные примеры, пусть маленькие, но победы.

Говорят, перед выборами на стол правителя легли аналитические записки, содержащие пессимистичные оценки и прогнозы. Внешне безобидные выборы таили в себе реальную угрозу. Избирательная кампания в местные Советы без жесткого управления со стороны "вертикали" неминуемо продемонстрировала бы изменения, произошедшие в общественном сознании, и сделала бы это достоянием общественности.

Это и предопределило тактику властей. Избирательная кампания превратилась в очередную битву за нужные цифры и создание видимости устойчивости власти. После выборов в обществе должны были сохраниться апатия, безысходность и ощущение силы режима. Особое внимание уделялось Минску и большим городам. Именно этим объясняется едва ли не тотальный отсев выдвиженцев от демократических партий в избирательные комиссии. Решая текущие задачи, власть одновременно моделировала ситуацию на среднесрочную перспективу. В преддверии возможного референдума и парламентских выборов "Красный дом" решил основательно проверить функциональное состояние государственной машины, состоящей из разных механизмов. Ни вертикаль, ни комиссии, ни судебные органы сбоев не дали. Сами выборы состояли из двух частей: собственно избирательная кампания и составление протоколов по итогам голосования.

Как оказалось, у граждан Беларуси есть только право заполнять бюллетень для голосования, но у избирателей нет прав ни на честный, прозрачный подсчет голосов, ни на представительство своих интересов в местных Советах.

Выборы в местные Советы позволяют сделать еще один важный вывод. **Меньшинство с применением обмана, манипуляций, запугивания, пропаганды правит страной. Это алогично, так не может быть. Это означает, что кризис будет только усиливаться, а противостояние нарастать.**

Выборы в местные Советы оставляют место для оптимизма. Кампания подтвердила, что Объединенная гражданская партия имеет сильные позиции в столице и крупных городах. На выборах 1995 года две трети депутатов от Минска вошли во фракцию "Гражданское действие". В 2003 году на избирательное поле столицы партия выпустила дублирующий состав, усиленный несколькими политическими тяжеловесами. Из 21 претендента на этапе регистрации была отсеяна почти половина, включая достаточно конкурентоспособных Анатолия Павлова и Ларису Шутко. 12 человек включились в избирательную кампанию. Акцент был сделан на коммуникации с населением. Потенциально мы получили выход почти на 300 тысяч жителей столицы. За пять дней до завершения избирательной кампании пять кандидатов вышли на уровень поддержки, превышающий 50%, и обеспечивающий победу уже в первом туре. ОГП переиграла партию власти в столице. Из 12 зарегистрированных претендентов шесть в условиях нормальных, честных выборов должны были стать депутатами Минского городского Совета. Не стал никто. Партия власти обсчитала ОГП. В условиях политической кампании без правил, где кандидаты изначально были разделены на касты, это было сделать несложно. Четверых, включая первую тройку минского списка ОГП — Сергея Альфера, Евгения Лобановича, Светлану Королеву, сняли буквально за два дня до завершения голосования. Грубо и нахально. Власть продемонстрировала, что она может украсть шесть депутатских мест, но она не в состоянии уворовать доверие и поддержку людей. Кандидаты, шедшие под партийным флагом, даже по "подсчетам" назначенных комиссий набирали 20% голосов и более. Но и эти сфальсифицированные цифры диссонируют с пропагандистскими заявлениями об отсутствии у демократических сил поддержки со стороны населения. Если бы власть не пошла на фальсификации и подтасовки, то в Минском городском Совете сегодня была бы демократическая фракция в количестве 13—15 человек.

Избирательная кампания разрушила ряд стереотипов, сформированных аналитиками, СМИ. Долгое время нас убеждали, что люди не будут голосовать за кандидатов демократических партий. Дескать, независимые кандидаты обречены быть любимчиками избирателя. Этот миф оказался разрушенным, как только произошло соприкосновение наших кандидатов с населением. И это логично, ибо выбор надо было делать не между лейблами "независимых" и "партийных", а между конкретными кандидатами.

*(Окончание на 2-й стр.)*

**СКАНДАЛ**

# Беларуская «бомба»

Амерыканскі журналіст, карэспандэнт Радыё "Свабода" Рон Сінавіц, агучыў сенсацыю: 140-ы рамонтны завод, які знаходзіцца ў г. Барысаве Мінскай вобласці і працуе пад дахам Міністэрства абароны Рэспублікі Беларусь, займаўся навучаннем іракскіх ваенных спецыялістаў і пастаўляў арміі Саддама Хусейна ваеннае абсталяванне. Менавіта аб гэтым сведчаць дакументы, знойдзеныя ў Іраку.

Рон Сінавіц быў прыкамандзіраваны да 3-й пяхотнай дывізіі ЗША, якая ўдзельнічала ў баях за Кэрбэлу і Багдад. Менавіта ў Багдадзе Рону Сінавіцу і трапіла на вочы цікавая знаходка: *"Гэты дакумент быў знойдзены ў сейфе высокапастаўленага іракскага афіцэра на базе іракскай нацыянальнай гвардыі на поўначы Багдада, калі гэтая база была занятая амерыканскімі войскамі. Разам з гэтым лістом быў знойдзены яшчэ адзін дакумент — ліст ад былога савецкага генерала Уладзіслава Ачалава, у якім прапаноўваюцца запчасткі да зброі для рэспубліканскай гвардыі. Амерыканскі салдат знайшоў ліст Ачалава і прынёс афіцэру разведкі. Я якраз быў пры гэтым і запытаў салдата, дзе ён знайшоў гэты ліст. Ён завёў мяне ў памяшканне, дзе знаходзіўся сейф, які ўзламалі, каб даведацца, што ў ім. І у гэтым сейфе я знайшоў ліст ад беларускага абарончага завода. У кантэксце ліста былога савецкага генерала, пра які я казаў, у беларускім лісце размова ідзе пра ўсталяванне зброі і рамонт ваеннай тэхнікі, якая была пашкоджаная падчас вайны ў Заліве ў 1991 годзе. Выглядае, што гэта копія ліста, які дасланы вайскоўцам з іракскай рэспубліканскай гвардыі для інфармавання наконт іх запыту".*





Дакумент зроблены на бланку 140-га рамонтнага завода і датаваны 16 чэрвеня 2001 года, зыходны нумар 1726. Адрасаваны ён некаму У.С.Рачкевічу і падпісаны начальнікам УП "140-ы рамонтны завод" У.Ф.Сакачам. У дакуменце сцвярджаецца, што барысаўскае прадпрыемства нібы гатова аказваць паслугі па навучанні ваенных спецыялістаў, напрыклад, для рамонту сілавых установак і ўзбраення танкаў, а таксама пастаўляць інжынернае абсталяванне для расчысткі мінных палёў і г.д. (глядзі ксеракопію). На адваротным баку ліста на арабскай мове зробленая прыпіска: *"Накіраваць дэлегацыю ў жніўні"*.

Я патэлефанаваў начальніку УП "140-ы рамонтны завод" Уладзіміру Сакачу. На пытанне, ці мелі месца ўказанныя ў дакуменце факты Уладзімір Фёдаравіч спачатку сказаў: "Не хачу даваць аніякага адказу — ні станоўчага, ні адмоўнага". Але потым цвёрда стаў на пазіцыю, што гэты дакумент фальшыўка, нягледзячы на тое, што "подпіс у ніжняй частцы дакумента вельмі падобны на мой подпіс". Іракскія спецыялісты, як сцвярджае Сакач, у Барысаў ніколі не прыязджалі. Ніякага Рачкевіча ён наогул не ведае.

Уладзімір Фёдаравіч лічыць сенсацыйны дакумент "граматна састаўленай падробкай": *"Камусьці трэба ліць вадзічку на чыйсьці млын. А што тычыцца бланкаў майго прадпрыемства, то яны ходзяць па ўсім свеце. Камусьці проста цікава, каб Беларусь хадзіла ў краінах-ізгоях"*, — лічыць У.Ф.Сакач.

Але вернемся да выказвання журналіста Рона Сінавіца: *"Тут важна ўлічваць, дзе гэты ліст быў знойдзены. На базе, дзе быў знойдзены ліст, якраз і знаходзілася ваенная тэхніка і запчасткі да яе. А ў лісце менавіта і гаворыцца пра рамонт ваеннай тэхнікі. Няўжо рэспубліканская гвардыя падрабіла бланк беларускага ваеннага завода, падрабіла на расійскай мове, і наўмысна пакінула гэты ліст ў сейфе, каб амерыканцы знайшлі яго? Дарэчы, у гэтым жа пакоі былі валізкі і з іншымі дакументамі, выглядала, што іх склалі, каб забраць, але відаць, у іракцаў не хапіла часу іх забраць".*

Радыё "Свабода" паспрабавала высветліць адрасата гэтага дакумента. У Інтэрнеце ў пошукавай праграме набралі па-расійску *"Рачкевич Владислав Станиславович"*. І атрымалі адназначны адказ: Рачкевіч Уладзіслаў Станіслававіч, кіраўнік беларуска-швейцарскай фірмы "Сістэмнае кіраванне бізнесам". Адным з сузаснавальнікаў гэтай фірмы, як паведамляецца на яе інтэрнэт-старонцы, з'яўляецца беларускі "Інфабанк". Менавіта гэты банк у шэрагу беларускіх і замежных публікацый называўся як "пральня для адмывання грошай", атрыманых ад пастаўкі беларускай зброі ў Ірак.

Сп. Рачкевіч паведаміў Радыё "Свабода", што неаднаразова бываў у Іраку з 1999 года. Паводле яго слоў, кампанія "Белметалэнерга" прыцягвала яго да працы з іракцамі як чалавека, які валодае англійскай мовай і з'яўляецца спецыялістам у пытаннях экспартнага бізнесу...

Сп. Рачкевіч заявіў, што фірма "Сістэмнае кіраванне бізнесам", якую ён зараз узначальвае, не мае ніякага дачынення да гандлю з Іракам. Ён таксама катэгарычна адмовіў сваю датычнасць да збройнага бізнесу з Іракам і сказаў, што дакумент, які знойдзены ў сейфе афіцэра іракскай рэспубліканскай гвардыі, бачыць упершыню.

Цалкам магчыма, што размова ў паперы ідзе пра іншага Рачкевіча, які не рэкламуе сябе праз Інтэрнет. Ня выключана, што кіраўніка "Сістэмнага кіравання бізнесам" проста падставілі, скарыстаўшы той чыннік, што ён меў кантакты з Іракам.

Невядома таксама, ці прыязджала ў Беларусь дэлегацыя, пра якую гаворыцца ў арабскай прыпісцы да ліста, знойдзенага Ронам Сінавіцам. Дырэктар барысаўскага прадпрыемства Сакач катэгарычна абвяргае такую магчымасць, паколькі "Ірак знаходзіўся пад эмбарга ААН".

Шмат пытанняў застаецца пасля даследавання сенсацыйнага дакумента. Вельмі цяжка зрабіць адназначную выснову, ці праўда ўсё гэта, ці не. У той жа час амаль немагчыма абвінаваціць у хлусні незалежнага амерыканскага журналіста, які напэўна дбае пра сваю прафесійную рэпутацыю. Хочацца верыць і барысаўскаму начальніку, хаця і цудоўна разумееш, што ён чыноўнік зацікаўлены і абсалютнай аб'ектыўнасці ад яго чакаць не прыходзіцца.

Сумна ад аднаго. Вельмі часта ў апошні час мы сутыкаемся з інфармацыяй, якая на першы погляд здаецца неверагоднай і немагчымай, усе адказныя асобы хорам яе абвяргаюць. Але потым высвятляецца, што ўсё неверагоднае — праўда, а тыя ж самыя адказныя асобы "гундосяць" зусім адваротнае...

**Алесь СІЛІЧ.**

**ПОДРОБНОСТИ**

## Суд над Леоновым

*Сегодня, 22 апреля, в Верховном суде начинается слушание по уголовному делу, возбужденному в отношении экс-генерального директора Тракторного завода Михаила Леонова.*

Михаил Леонов 27 лет отдал белорусскому машиностроению, из них более шести лет работал генеральным директором Тракторного завода.

Задержали Леонова в начале января 2002 года якобы при попытке к бегству.

Он обвиняется в злоупотреблении властью или служебным положением, вызвавшем тяжкие последствия, причинении ущерба предприятию в особо крупном размере, в служебной халатности, причинившей ущерб предприятию в особо крупном размере, получении взятки в особо крупном размере за оказание содействия коммерческой фирме в заключении якобы заведомо невыгодного контракта с заводом.

По словам А.Лукашенко, белорусские следователи обнаружили в Германии многомиллионные счета, принадлежащие бывшему гендиректору МТЗ и членам его семьи.

Однако Михаил Васильевич по-прежнему утверждает, что он не виновен.

"Народная воля" будет следить за ходом процесса.

**Марина ВИШНЕВСКАЯ.**







**ТЕМА ДНЯ**

# Приглашение к самоубийству

**Константин СКУРАТОВИЧ**



Председатель Нацбанка Петр Прокопович, его заместители, а то и лично Лукашенко регулярно информируют население на предмет объединения валютами с Россией. Сведения, которыми они "откровенно" с нами делятся, настолько противоречивы, что их вполне можно принять и за сознательную дезинформацию.

В результате ситуация крайне запутана. В ней не могут разобраться даже специалисты. Но отдельные авторы делают это с завидной легкостью. Вот что, например, пишут в одной из госгазет Наталья Пинчук и Вячеслав Дашкевич: *"Споры о том, быть ли одному или двум эмиссионным центрам, затрагивают главным образом финасово-политические элиты. Народы — за Союз".*

Эмиссия, поясним, это право государства печатать собственные деньги. С технической точки зрения вопрос интереса не представляет: их можно печатать хоть в России, хоть в Гондурасе. Но чертовски интересно, как их делить.

Деньги в любом случае — власть. И в этом смысле властные полномочия определяются количеством денег. Поэтому любой властитель в любом государстве всячески укреплял свое монопольное право на эмиссию дензнаков и жестоко преследовал фальшивомонетчиков. Кстати, доходы государства от печатания денег называются "сеньораж", что четко указывает на приоритеты. Это самый простой и действенный из всех существующих налогов, для его сбора не нужна налоговая полиция. Он автоматически взимается с граждан с каждым тактом печатного станка. Именно поэтому государства, проигравшие войну, ограничивались в возможностях проводить самостоятельную кредитно-денежную политику, на оккупированных территориях вводились особые, оккупационные деньги, правящие режимы в колониях жестко ограничивались в своих притязаниях.

В советские времена, будучи страной-основательницей ООН, имея даже свой декоративный МИД, даже собственные флаг и герб, БССР, не имея собственной денежно-финансовой системы, не могла по собственному усмотрению решить ни одного сколько-нибудь значимого хозяйственного вопроса. Деньги на строительство каких-то объектов можно было получить только в Центре, то есть в Москве.

Вот и приходилось строить то, что нужно было Центру, но не вполне соответствовало ни возможностям Беларуси, ни ее интересам. Промышленность Беларуси, отделенная от основных источников сырья и рынков сбыта, была частью неэффективной советской экономики.

Умным людям уже в то время было понятно, что промышленный комплекс Беларуси надо перестраивать, приспосабливать к новым условиям, которые никакими иными, кроме рыночных, стать не могли. Внутри можно было поупражняться в социальной справедливости, но основные-то партнеры за рубежом. Но даже понимающим из тех, кто имел власть, не хватило духу на смелые решения.

Кто не помнит поездки в московские главки с "сыравяленай, кумпячком з вяндлінкай ды пляшкамі "Белавежскай"! Навещали белорусские начальники Белокаменную с одной просьбой: "Денег, братцы, денег..."

Но в Москве уже иные люди и не те вкусы. Там "младореформаторы" типа министра финансов Бориса Федорова откровенно злорадствуют: деньги дадим, если страна будет общей. А так, мол, зарабатывайте сами.

Разумеется, в новом союзе, если он все-таки состоится, ситуация будет похожа на прежнюю, но не будет абсолютно такой же. Во-первых, Центр в то время был как бы наднациональным. И Беларусь в силу разных причин порой получала преимущество и перед Россией, и перед Украиной. Ныне белорусскому "лидеру" за преференции придется соперничать с такими коренными россиянами, как Шаймиев, Илюмжинов, Тулеев. О соперничестве с олигархами у власти, например, с губернатором Чукотки Романом Абрамовичем вообще лучше не думать.

Хотя иногда, возможно, денег будут давать больше, чем, допустим, Воронежской губернии. Но шнурочек, привязывающий Беларусь к Кремлю, будет, скорее, жестким, чем эластичным. На каждый ледовый дворец надо будет испрашивать разрешения, да и найдутся желающие посмотреть, сколько там накопилось в резервном, или, как его называют, президентском, фонде. Может, на самом деле больше, чем в госбюджете?

А что с народом, который желает объединяться? А ничего. Как всегда, он получит с гулькин нос. За все придется расплачиваться с Центром. По-иному — с общаком. То есть ответственность — суровая, самодеятельность — предельно ограниченная. Так вот, "общак" денег на поддержку колхозов не даст, на убыточные предприятия — тоже. А их у нас, если считать по совести, больше половины. А это безработица, снижение налоговой базы, крах пенсионного обеспечения.

А из того, что останется, те же олигархи заберут лучшее по цене, которую сами же и положат.

В общем, можно делать по-всякому. Но сначала надо ответить на вопрос: нам это надо? Не кажется ли, что, приглашая в Союз, нас приглашают к самоубийству?

КУМИРЫ

# Знаменитая и неизвестная

*У Ирины Полянской нет официальных званий и наград. Ее фамилию не встретишь ни в одном справочно-энциклопедическом издании по искусству Беларуси. Хотя имя этой певицы некогда гремело по всему Союзу, ее концерты, где бы она ни выступала, неизменно собирали полные залы. Публика боготворила Полянскую, коллеги почтительно склонялись перед магией ее таланта.*

*Ее путь на эстраду начинался в довоенном Ленинграде. Там, будучи совсем юной, она стала солисткой известного в то время джаз-оркестра Бориса Карамышева.*

*В середине 50-х, уже состоявшейся певицей, Ирина Александровна переехала в Беларусь. С ее творчеством связан яркий взлет нашей песенной эстрады. По существу, Полянская — ее основоположница. Певица неповторимого таланта, она мастерски владела любой аудиторией, как никто, умела властно подчинить себе слушателя, заставить его внимать каждому слову, каждой интонации своего задушевного голоса. Ее высочайшая исполнительская культура и сегодня остается во многом непревзойденной.*

*К сожалению, оставив сцену, Ирина Полянская надолго ушла в тень. С годами ее имя забылось, хотя для своих поклонников и бывших коллег по эстрадному цеху она по-прежнему остается кумиром.*

*Сегодня, 22 апреля, ей исполнилось 85 лет.*





Накануне юбилея с ней встретилась наш корреспондент.

— Я родилась в селе Тригорское, в пушкинских местах, — говорит Ирина Александровна. — Пением увлекалась с раннего детства. Мама рассказывала, что в пять лет я заворачивалась в простынь и выходила петь шансонетки, которые слушала на пластинке. Так что пение, очевидно, было заложено во мне с детства.

**— Вам хотелось кому-то подражать?**

— Мне ближе всех была Клавдия Шульженко. Я очень любила эту исполнительницу, восхищалась, как мастерски она владела своим голосом. И уже после того, как я сама стала известной певицей, меня не раз с ней сравнивали, называли "белорусской Шульженко".

**— Лестное сравнение.**

— Конечно. Кстати, однажды мы с Шульженко оказались вместе на гастролях в Одессе, нас поселили в одной гостинице в соседних номерах. Она была на моем концерте, где я пела две песни из ее репертуара. А днем мы встретились на балконах. Она высказала комплименты в мой адрес, но заметила, что *ее* песни я пою совсем по-другому, не так, как она, и что ей приятно, что я ей не подражаю. Для нее, например, исполнение песни "Не надо" было связано с личной драмой — разрывом с мужем. Я же пела ее так, как чувствовала. И однажды композитор, автор этой песни, пришел ко мне за кулисы и сказал: "Я писал, как Вы поете".

**— Ирина Александровна, знаю, что большую роль в Вашей жизни сыграли мужья. Говорят, именно они помогли Вам состояться...**

— Да, мне повезло и как женщине, и как певице. Моим первым мужем был талантливый музыкант и дирижер Борис Карамышев. Он тогда выступал под фамилией Смит. Его оркестр так и назывался — "Джаз Смита". Это был замечательный коллектив, где играли маститые музыканты. Кстати, потом весь оркестр уехал на Финскую войну...

Карамышев заприметил меня на одном из концертов в ленинградском клубе строителей. Услышав, как я пою, он заявил: "Эта девочка будет работать у меня". И дал мне сразу две песни — "Катюшу" Блантера, "Сашку-сорванца" из репертуара Юрьевой. Он ведь сам не писал песен, поэтому подбирал для меня то, что считал необходимым. Ну а потом женился на мне.

**— Вы, надо полагать, были не против?**

— Против были его поклонницы, которые сходили по нему с ума. Мне он очень нравился, нравился его потрясающий оркестр. Представляете, я, певица из самодеятельности, попала сразу в такой высокопрофессиональный коллектив! Я и мечтать об этом не могла! Борис Карамышев — отец моего единственного сына Юрия, который, к сожалению, уже умер. Карамышев дал мне очень много. Но вместе мы были недолго.

По-настоящему я состоялась как певица благодаря Эммануилу Розниковскому, моему второму мужу. Он был моим аккомпаниатором и писал для меня песни. В профессии я обязана ему всем. Он опекал меня, наставлял, помогал искать свой стиль. В общем, шлифовал, как бриллиант. И в один прекрасный день сказал: "Всё. Я больше тебе ничего не могу дать. Ты — состоявшаяся певица".

А потом мы приехали на гастроли в Грузию, и в меня влюбился человек, из-за которого нам пришлось расстаться. Знаете, грузины ведь очень красиво ухаживают... Он громко признавался мне в любви, говорил, что я должна быть с ним. Так и произошло. Потом мы вместе переехали в Минск, он стал директором моего коллектива, оказался прекрасным администратором, все с ним считались. Его тоже уже нет в живых.

**— Ирина Александровна, а что из себя в то время представляла белорусская эстрада?**

— Эстрада тогда существовала отдельно от филармонии и занимала помещение в здании оперного театра. А потом и филармония, и эстрада переехали в "домик" возле Дома офицеров. Там кипела жизнь, создавались интересные номера и концерты. Мы сделали оригинальную программу в трех отделениях, которая называлась "Концерт-бал". Кстати, в этой программе среди музыкантов моего коллектива впервые оказался аккордеонист Измаил Капланов. Это было юное обаятельное создание, совсем еще мальчик! А вскоре приехала Неля Богуславская — тоже юная и безумно талантливая. С этой прекрасной парой я дружу до сих пор. Ну а потом мы переехали в новое здание. У меня там был свой класс, где я занималась с молодежью. По существу, это была студия эстрадного искусства.

**— Вы всегда держали себя в прекрасной форме. Как Вам это удается?**

— Я и сейчас ограничиваю себя в еде и буквально с кровати становлюсь на весы. А в молодости постоянно занималась спортом, каталась на коньках, лыжах. К тому же я отлично плаваю. Раньше каждое лето отдыхала на море и ежедневно проплывала приличные расстояния. Вот оттуда моя работоспособность.

**— За свою жизнь Вы дали несколько тысяч концертов. Какой из них самый памятный?**

— Знаете, я особенно часто вспоминаю свои выступления в составе фронтовой концертной бригады. Ведь я всю войну провела на фронте. Всю! Со мной было 4 музыканта, мы обслуживали Украинский фронт и Заполярье. Спали в землянках на газетах. Случалось, и под обстрел попадали. Но как нас везде принимали, Боже мой! Однажды, помню, выступали в лесу в какой-то болотистой местности. Вода по щиколотку, а я — в туфельках. Так двое солдат сняли с себя шинели и бросили мне под ноги. До слез трогало! Я, кстати, всегда, на любых площадках выходила петь в сценических нарядах — обязательно в туфлях на каблуках, обязательно в открытых платьях. Это был мой принцип. Я считала, что артист должен соответствовать своему образу. И вот в Днепропетровске на одном из концертов мы оказались в совершенно неотапливаемом помещении. Холод страшный, на полу и стенах — лед, люди сидят в шубах, валенках. А я, как всегда, в открытом платье. Выхожу на сцену, и вдруг раздаются крики: "Оденьтесь! Оденьтесь! Оденьтесь!" Они не давали возможности начать концерт, пока кто-то не вынес мне накидку. Как я благодарна всем этим солдатам, морякам, которые делились со мной последним кусочком сахара, перемешанным с табаком! Я никогда этого не забуду! И я счастлива этими воспоминаниями, счастлива за всю мою прожитую жизнь. Счастлива тем, что оказалась в Беларуси. Я безумно любила свою публику, отдавала ей все, что могла. И она платила мне взаимностью!

***

В это невозможно поверить, но первую и единственную запись на Белорусском радио Ирина Полянская сделала всего пять лет назад, перед своим 80-летием (!). Большинство учеников, которых она опекала после того, как покинула сцену, никогда не слышали ее голоса. Но это нисколько не умаляло высочайшего авторитета Ирины Александровны. В канун юбилея певицы мне удалось пообщаться лишь с некоторыми ее учениками и преемниками.

*"Ирина Александровна — потрясающая женщина, она дала мне первые уроки в профессии,* — сказала по телефону наша землячка, звезда российской эстрады **Алена Свиридова**. — *Мне всегда хотелось брать с нее пример во всем, я ее помню и люблю".*

*"Она — настоящий мастер, профессионал своего дела,* — голос заслуженной артистки Беларуси **Надежды Микулич** потеплел, когда она узнала о цели моего звонка. — *Ирина Александровна в свое время очень много со мной занималась, по существу, вернула мне утраченный после родов голос. Я ей бесконечно благодарна".*

*"Когда я приехала в Беларусь и попала к ней в коллектив, то смотрела на нее, как на божество,* — говорит неподражаемая **Нелли Богуславская**. — *Я перенимала каждое ее движение, каждую интонацию". "Благодаря ей,* — добавляет Измаил Капланов, — *мы с Нелей встретились и поженились, и многие события нашей более чем 40-летней совместной жизни связаны с именем Ирины Александровны. Дай Бог ей здоровья!".*

Хочется надеяться, что эти искренние слова для Ирины Полянской выше и дороже официальных наград. И все-таки обидно, что в Беларуси, которую Ирина Александровна безумно любит, ее талант по-настоящему так до конца и не оценили...

*Редакция "Народной воли" присоединяется ко всем поздравлениям в адрес замечательной певицы и желает ей благополучия и, конечно же, крепкого здоровья!*

**Ольга БРИЛОН.**

**На снимках:** *Ирина Полянская в 40-х годах и во время празднования своего 80-летия (1998).*

**Фото из архива певицы.**



22
красавіка

АЎТОРАК
Усх. 5.53 Зах. 20.25
Даўж. дня 14.32
Апошняя квадра 23 красавіка

Сёлета спаўняецца 80 гадоў з часу заснавання В. Ластоўскім у Коўне (Каўнасе) грамадска-палітычнага і літаратурнага часопіса на беларускай мове «Крывіч» (1923—1927).





СПОРТ

## Дупанаў атрымаў запрашэнне ад Міжнароднай федэрацыі футбола

Беларускі асістэнт рэферы Юрый Дупанаў адправіцца ў Францыю для абслугоўвання матчаў Кубка канфедэрацый, розыгрыш якога плануецца правесці з 18 па 29 чэрвеня. Як высветлілася, наш зямляк будзе працаваць у адной брыгадзе з расіянамі Ганадзем Красюком і Валянцінам Івановым.

## «Рэал» згуляў унічыю з «Барселонай» на сваім полі

Скончыўся 30-ы тур чэмпіянату Іспаніі сярод каманд вышэйшага дывізіёна. Лідэр нацыянальнага чэмпіянату, мадрыдскі "Рэал" на сваім полі прымаў "Барселону", якая займае 11 пазіцыю ў чэмпіянаце. Футбалісты каралеўскага клуба не змаглі перамагчы ў сябе дома, згуляўшы з гасцямі ўнічыю (1:1).

У сустрэчы адзначыўся бразільскі легіянер, чэмпіён свету Раналда, стаўшы аўтарам першага гола на 16-й хвіліне. Адказны гол ад "Барселоны" паследаваў у другой палове першага тайма, калі на 32-й хвіліне Марцінес Луіс Энрыке паразіў вароты тытулаваных гаспадароў. У другім тайме лік не змяніўся, толькі ігрок "Рэала" Мічэл Сальгада пад канец матча, на 87-й хвіліне, быў выдалены з поля.

## И реклама бывает художественной

*Ты ненавидишь рекламу, но раз в год ты готов на все, лишь бы попасть на фестиваль рекламы "Каннские львы". Как обычно, в апреле концертный зал "Минск" готов принять всех желающих увидеть лучшие рекламные ролики мира.*

Вечер открывала группа "Drum XTC". Однако сыграли они в этом году без запала, в отличие от предыдущих лет. Может, виной тому синхронный хруст "Кириешек" в зале, которые спонсоры раздавали у входа совершенно бесплатно? Но, как бы там ни было, вскоре безвозмездные сухарики у публики закончились, и аудиторией всецело завладели рекламные ролики.

Сначала были показаны "Golden Drum", затем ролики с "Московского международного фестиваля" и на десерт сами "Каннские львы".

Кто-то задаст вопрос: как можно в течение трех часов смотреть рекламу? Обычно и трех минут не выдерживаешь... И ошибется. Ролики, представленные на фестивале, ничуть не похожи на банальное "Покупайте наши пельмени!". Их следовало бы назвать настоящими художественными произведениями. Это мини-фильмы заставляют смеяться, а иногда и плакать, задуматься над тем, что ты делаешь. В зале то разрывались бомбы смеха, то наступала гробовая тишина, а затем бурные овации. Думаю, не всегда спектакли в театре вызывают такую бурную реакцию. И это подчеркивает высокое качество роликов.

**Татьяна КАРДАШИНА.**

## Вторник, 22 апреля

### БТ

**06.00, 07.00, 08.00, 15.00, 18.00, 23.00** Новости.
**06.10, 07.10** Доброе утро, Беларусь!
**08.10 "Линия защиты".** Сериал.
**Техническая профилактика с 9.00 до 15.00.**
**15.15 "Самая плохая ведьма".** Сериал для детей.
**15.45** 5 чудес.
**15.55 "Вокруг шпионы".** Анимационный сериал. 1-я серия.
**16.20** 5 х 5. Информационно-развлекательная программа для старшеклассников.
**17.00** Клип-обойма.
**17.05 "Тайны Ниро Вульфа".** Сериал.
**18.15 "Линия защиты".** Сериал.
**19.05** Драма **"Мерилин Монро".** 1-я серия.
**20.40** Колыбельная.
**21.00** Панорама. Информационный канал.
**21.45** Новости региона.
**21.55 "Королева сердец".** Сериал.
**22.50** Зона Х.
**23.15** Футбол. Кубок Беларуси. 1/4 финала. "БАТЭ" (Борисов) - "Динамо" (Минск).

### ОНТ

**08.00, 09.00, 18.00, 20.30, 23.35** Наши новости.
**08.05** Телеканал "Доброе утро".
**09.05** Авантюрная драма **"Короткая игра".**
**10.35** "Десять смертельных акул". 1-я часть.
**11.25** "Фабрика звезд-2".
**11.55** Дисней-клуб: "Ллойд в космосе".
**15.10** Теория невероятности. "Сны и сновидения".
**15.35** "Формула власти". Президент Индонезии.
**16.05** Солдаты свободы: "Тегеранская конференция".
**17.00** "Большая стирка" с Андреем Малаховым.
**18.10** Шутка за шуткой". Юмористическая программа.
**19.00 "Земля любви, земля надежды".** Сериал.
**20.00** Время.
**21.00** Премьера ОНТ. "Не только о футболе". Спортивное обозрение.
**21.25** "Кто хочет стать миллионером?" с Максимом Галкиным.
**22.30** Многосерийный фильм **"Другая жизнь".**
**23.50** "Фабрика звезд-2".
**00.10** "На футболе" с Виктором Гусевым.



### РОССИЯ

**17.50 "Комиссар Рекс".** Телесериал.
**18.50** Вести. Дежурная часть.
**19.00** Вести.
**19.30** Местное время. Вести - Москва.
**19.50** Спокойной ночи, малыши!
**19.55** Сериал **"Смотрящий вниз".**
**21.05** "Создать "Группу "А". "Уфимские оборотни". Часть 2-я.
**22.00** Ток-шоу "Вести +".
**22.30** Вести - спорт.
**22.40** Боевик **"Команда Шарки".**

### КУЛЬТУРА

**15.10** "Кумиры". Евгений Шварц.
**15.40** Йохан Ковальски в Оружейной палате.
**16.05** "Третьяковка - дар бесценный!" "Лики Древней Руси".
**16.35** К 85-летию киностудии "Ленфильм". "Фэкс". Премьера документального фильма. Режиссер О.Ковалов.
**17.15** "Гербы России". Герб Петергофа.
**17.30** Вести.
**17.40** Новости культуры.
**17.55** "Дворцовые тайны". "Дело Артемия Волынского".
**18.25** "Человек из Стратфорда". Авторская программа А.Бартошевича.
**18.55** "Партитуры не горят". Авторская программа А.Варгафтика.
**19.25** "Знаменитые арии". Сцена из оперы В.Моцарта "Похищение из сераля".
**19.35** "Помогите Телеку". Вечерние истории для самых маленьких.
**19.55** Ретроспектива фильмов к 85-летию киностудии "Ленфильм". **"Магистраль".** Худ.фильм (1983). Режиссер В.Трегубович.
**21.25** "Что делать?" Программа В.Третьякова.
**22.20** "Экология литературы". Альберт Карельский.
**23.00** Новости культуры с Владиславом Флярковским.
**23.25** "Ночной полет". Ведущий Андрей Максимов.

### НТВ

**09.00** Сегодня утром.
**09.20** Погода на завтра.
**09.25** "Очная ставка". "Цена жизни".
**10.00, 11.00, 15.00, 16.00, 17.00** Сегодня.
**10.05** "Кулинарный поединок": "Пасхальный стол".
**14.35** "Лекарство от депрессии". Ток-шоу "Принцип домино".
**16.05 "Бандитский Петербург: журналист".** Сериал.
**17.20** Док.драма "Преступление и наказание".
**18.00** "Сегодня" с Татьяной Митковой.
**18.40** Сериал **"Пятый ангел".** 14-я серия.
**19.50** Сериал **"Бандитский Петербург: журналист".** 2-я серия.
**21.00** "Страна и мир". Главные события дня.
**21.40** Модный сериал **"Секс в большом городе".**
**22.25** Сериал **"Пятый ангел".**
**23.35** Футбол. Лига чемпионов. 1/4 финала. "Барселона" (Испания)- "Ювентус" (Италия).

### СТВ+RenTV

**05.00** Музыкальный канал.
**05.30 "Битлборги".** Телесериал.
**05.55, 15.55 "Пауэр рейнджерс, или Могучие рейнджеры".** Телесериал.
**06.20, 15.25** "Джим Баттон". Мультсериал.
**06.50, 15.00** "Новый экшенмен". Мультсериал.
**07.15** "Минщина. Люди, события, факты".
**07.25,** 13.30, 16.30, 19.30, 22.20 "24 часа".
**07.45** "СТВ-спорт". Телеальманах.
**08.05** "Технология".
**08.15** Боевик **"Скорость-2: Автопилот".**
**10.15** "София Полоцкая" Видеофильм.
**10.25** "Игровой рефлекс".
**10.35** "Под углом 23 с половиной". Док.фильм.
**11.00** "Пока горит свеча".
**11.30 "Вино любви".** Теленовелла.
**12.25** "Народ против". Телеигра.
**12.55 "Агентство".** Комедийный сериал.
**13.50, 18.40 "Крутой Уокер".** Телесериал.
**14.35 "Битлборги".** Телесериал.
**16.45 "Веселая компания".** Комедийный сериал.
**17.55** "Минщина. Люди, события, факты".
**18.05** "Здравствуйте, доктор!".
**18.20** "Минск и минчане".
**18.25** "Тема дня".
**19.50** "СТВ-спорт".
**20.05** "Добро пожаловаться...".
**20.15** Детский экран. "Добрый вечер, малыш...".
**20.35** "Закон и криминал".
**20.50** Комедия **"Комедия строгого режима".**
**22.40** "Технология".
**22.50** "Новости СНГ".
**23.05** "Чернобыль. Обреченная АЭС". Док.фильм.
**23.35** Драма **"Наше Рождество".**
**01.05** Окончание эфира.

### 8-Й КАНАЛ

**17.30** Мульт-парад.
**17.45** Худ.фильм **"Хитрый вор".**
**19.15** "Без протокола".
**19.40** Телемагазин.
**19.45** "Чудеса православия".
**20.40** Международные новости с "Дойче велле".
**20.45** "Вечарніца".
**21.00** Док.фильм "Целитель".
**21.10** Историческая драма **"Первый рыцарь".**

### ТВ ЦЕНТР

**05.00** Информационно-развлекательный канал "Настроение".
**07.50** Газетный дождь.
**08.00** Смотрите на канале.
**08.05 "Разлученные".** Телесериал.
**08.50** "Дворянское гнездо" под Парижем". А.Звигильский.
**09.20** "Беги, ручеек". Мультфильм.
**09.40** Телемагазин.
**10.00, 13.00, 17.00, 21.00** События. Время московское.
**10.15** Телеканал "Дата".
**11.15** "Момент истины". Авторская программа А.Караулова.
**12.10** Петровка, 38.
**12.30** Деловая Москва.
**12.45** Доходное место.
**13.15 "Инспектор Деррик".** Криминальный телесериал.
**14.20** Как добиться успеха. Доктор Богданов.
**14.30** Музыкальная программа "Полевая почта".
**15.00** Регионы: прямая речь.
**15.30** Идущие вперед.
**16.00 "Шпионы".** Телесериал.
**17.15** Детектив-шоу.
**18.00 "Узы любви".** Телесериал.
**18.50** Пять минут деловой Москвы.
**19.00** Лицом к городу.
**20.10** Великая иллюзия. Программа С.Говорухина.
**21.50** Отдел "Х".
**22.20** Москва. Хроника нового времени.
**22.35** Времечко.
**23.10** 25-й час. События. Время московское.
**23.30** Петровка, 38.
**23.45** Серебряный диск.
**00.05 "Охота на людей".** Детектив.
**00.55** "Синий троллейбус". Телефон доверия для полуночников.

### EUROSPORT

**09.30** Марафон. Бостон. Прямая трансляция.
**10.30** Евроголы. Футбольный журнал. Повтор.
**12.00** Снукер. Чемпионат мира. Шеффилд. Прямая трансляция.
**15.00** Футбол. Спецобзор.
**15.30** Евроголы. Футбольный журнал. Повтор.
**17.00** Снукер. Чемпионат мира. Шеффилд. Прямая трансляция.
**19.45** Тяжелая атлетика. Чемпионат Европы. Греция. Повтор.
**21.45** Бокс.
**00.15** Бокс. Повтор.
**01.45** Футбол. Спецобзор. Повтор.

**Адрас рэдакцыі:**
220030, Мінск, вул.Энгельса, 34а.
Прыёмная: (017) 206-68-71.
Тэл./факс рэкламнага аддзела: 206-69-04.
E-mail : nv@promedia.by
http://nv.promedia.by

**Індэкс 63222.**

Заснавальнік і галоўны рэдактар Іосіф СЯРЭДЗІЧ

У сувязі з адсутнасцю магчымасці рэдакцыя матэрыялы не рэцэнзуе і не вяртае, права ўступлення ў перапіску пакідае за сабой. За інфармацыю, размешчаную ў рэкламных аб'явах, рэдакцыя не адказвае. Могуць друкавацца матэрыялы, у якіх пазіцыя аўтараў не падзяляецца газетай.
Рэгістрацыйнае пасведчанне №246. Нумар газеты аддрукаваны з дыяпазітываў заказчыка на УП «Чырвоная зорка», 220073, г.Мінск, 1-ы Загарадны завулак, 3. Падпісаны ў друк у 15.00. Фармат А-2. Тыраж: 30 130 экз. Заказ № 702.